# Пытаньне зямельнай рэформы ў Літоўскім Установчым Сойме.

Правядзеньне зямельнай рэформы з'яўляецца адным з галоўнейшых заданьняў працы Сойму. А таму ня дзіўна, што аграрнае пытаньне з самых першых паседжэньняў і да апошняга часу так абгаварывалося ў Соймі. З другога боку ўсё літоўскае грамадзянства, працаўнікі зямлі і гарадзкія рабочыя з вялікім інтарэсам сьлядзяць за працаю зямельнай рэформы ў Установчым Соймі. Усе чакаюць, калі будуць узноўлены зьніштожаныя іх правы, калі будуць вынаграджаны нанесяныя нам абіды, калі, у рэшці, будзе спынена сваевольства шляхты ў Літве. І гэта ажыданьне народу, яго безпакойства добра зразумела і абаснована. Усюды пры вялікіх маёнтках гаруюць сямейкі беззямельных і малазямельных. Акрамя гэтага, наўрад ці знайдзецца ў Літве і Беларусі маёнтак, які быў бы збудованы без нанесеньня абіды мейсцовым жыхаром, які ня прысвоіў—бы зямлі суседніх вёсак. На працягу сталецьцяў збанкратаваўшыя і прагуляўшыя свае маёнткі ў Польшчы польскія паны ці вырадкі літоўцы і беларусы йшлі ў Літву і на Беларусь і адбіралі ад народу зямлю. Адабраўшы зямлю, прымусілі саміх жыхароў гараваць. Правы народу былі ўтоптаны ў гразь, іх гора і жальбы ня прыймаліся зусім пад увагу. Жорсткая рука шляхты руйнавала нашы старасьвецкія сядзібы і толькі клапацілася аб тым, каб ёй была магчымасьць балеваць, весяліцца. Такім чынам, доўга гаспадарачы ў нашым краі, польская шляхта загарнула нашу зямлю і збудавала сабе агромністыя маёнткі. Уціснаныя расейскім ігам, мы доўга павінны былі зносіць гэта безпраўе палякаў. Цяпер-жа дзякаваць Богу, прышлі іншыя часы. Цяпер Літоўская Нацыя праз Установчы Сойм бярэцца сама прыводзіць у парадак справы свайго краю. І зусім зразумела, што паперш усяго народ мог вымагаць вынаграджэньня нанесяных нам крыўд, звароту нашаму працоўному люду зямлі, якую прыгарнулі сабе польскія памешчыкі. Гэта адна з галоўных прычын, якая прымушае Літоўскі Сойм як найхутчэй пасьпяшыць з правядзеньнем аграрнай рэформы ў Літве Другой прычынай з'яўляецца тое, што ніякае дэмократычнае грамадзянства ня можа зносіць парадку, узмацованага на эксплоатацыі. А нашы маёнткі як раз з'яўляюцца самымі

гарачымі прыхільнікамі такога парадку і імкнуцца падтрымаць яго. Польскія маёнткі ў Літве і з'яўляюцца прычынаю соцыяльнага неравенства і соцыяльнай бяды ў Літве. Літоўскі Сойм разумее, што так далей ня можа цягнуцца, а таму, не адкладаючы справы ў доўгі яшчык, йдзе да адабраньня вялікіх маёнткаў і перадачы іх беззямельным і малазямельным.

Цяпер паглядзім, што на самым чыне Сойм зрабіў у вобласьці аграрнай рэформы, прымаючы пад увагу жывыя інтарэсы Літоўскага працоўнага люду. Ужо йдучы ў Сойм, прэдстаўнікі далі сваім выбаршчыкам урачыстую клятву, што, абгаварываючы ў Соймі зямельнае пытаньне, яны будуць забараняць толькі інтарэсы працоўнага люду. Зараз убачым, што ў сваей працы па правядзеньню аграрнай рэформы прэдстаўнікі Сойму засталіся верны данным сваім выбаршчыкам абешчаньням. На першым паседжэньні Сойму Старшыня Сойму А. Стульгінскі ў сваёй дэклярацыі па аграрнаму пытаньню заявіў: „Падставай Дзержаўнага жыцьця і галоўнейшай сілай з'яўляецца гаспадарка краю. Адабралі ад гаспадароў народную гаспадарку, збудаваўшы яе на асновах эксплоатацыі. Самая большая частка грамадзян, працуючых у гаспадарстве, меней усяго мела падтрымкі з боку Гаспадарства. У гістарычным ходзе нанесяныя крыўды павінны быць іспраўлены. Аграрная рэформа ў Літве, неадкладнае пытаньне. Поруч з вялікімі маёнткамі цярпіць маса беззямельных і малазямельных. У Літоўскай Дэмократычнай Рэспубліцы не павінна быць сыноў і пасынкаў. Літва нікаму не павінна быць мачыхаю. Жадаючыя апрацоўваць зямлю беззямельныя і малазямельныя, у першую чаргу вайсковыя, стануць поўнапраўнымі гаспадарамі".

Увесь Сойм, горача згаджаючыся з гэтым, выказаў сваё спачуцьцё гэнай заяве Старшыні Сойму. Потым Старшыня самай вялікай фракцыі (хрысьц. дэмокр.) Сойму Круповіч, чытаючы дэкляарацыю партыі ў Сойме по аграрнаму пытаньню, заявіў: „Для нашага Дзержаўнага Эканамічнага добрабыту павінна быць праведзяна як найхутчэй цэлесаабразная і справедлівая зямельная рэформа. У гэтым пытаньні наш дэвіз—зямля прыналежыць тым, для каго яна з'яўляецца крыніцай прапітаньня. Маёнткі павінны быць раздзеляны. Кожны беззямельны працаўнік зямлі павінен атрымаць столькі зямлі, каб ён мог пражыць з сваей сямьёй.

Ня будуць тут забыты і гарадзкія рабочыя: дзеля збуданьня свайго ачага і яны павінны будуць атрымаць адпаведаючы кавалак зямлі".

Другая большасьць Сойму — соцыал.-народнікі — праз прэдстаўніка Рымку ў сваей дэклярацыі па зямельнаму пытаньню заявілі: „Галоўнейшая мэта аграрнай рэформы гэта, каб зямлёй валадалі тыя, хто сам яе апрацоўвае. Жадаючы гэтага дасягнуць, патрэбна, каб зямля, якою цяпер валадаюць ня тыя, хто, карыстаючыся чужою працай, складаюць сабе капіталы, была падзеляна між беззямельнымі і малазямельнымі, так, каб яны маглі жыць па людзку і выяўляць сваю ініцыатыву.“

Калі хрысьціанскія дэмократы і соцыялісты - народнікі, складаючыя ў Сойме пераважную большасьць (звыш. 90 прэдстаўнікоў з 112) зрабілі такія заявы па зямельнаму пытаньню, тады Ўсяму краю стала ясна, у якім напрамку пойдзе ў Сойме праца аграрнай рэформы. Пачуўшы такія заявы, увесь край, а асабліва беззямельныя і малазямельныя ўсьцешыліся. Бо ўсім стала ясна, што Сойм споўніць даўнішнія жаданьні нашага народу.: звароціць адабраныя ад народу землі. Наша шляхта, паны вельмі апечалены і азабочаны лёсам маёнткаў. Яны зусім ясна убачылі, што ў канцы канцоў уцекаюць з іх рук багацьці, якія яны набылі шляхам захвату.

А таму многія літоўскія памешчыкі пачалі сьпешна прадаваць свае маёнткі і лясы ці закладаць іх у заграгічных банках. Памешчыкі—палякі, якія клапаціліся аб Літве пастольку, паскольку яны маглі здабыць ад нас багацьці, хваталіся за ўсе нядобрасовестныя средствы, каб зьліквідаваць маёнткі, пакуль Сойм не налажыў на іх дзержаўнай апекі. Гаспадарцы Літвы пагражае вялікая небязьпека. А таму Сойм, разумеючы, што гэтым самым памешчыкі могуць моцна пашкодзіць усей працы зямельнай рэформы, нямедля выдаў цэлы рад законаў, якія абмежавалі спэкуляцыю зямлёй і лясамі.

Першы такі патрэбны закон пачаў абгаварвацца ўжо на чацьвёртым паседжэньні Сойму, а на сёмым (26 мая 1920 г.) быў прыняты. Гэта быў „Часовы закон аб закладзе лясоў і прывілейна набытых земляў.“ Гэтым законам была забаронена прадажа лясоў.

Гэты закон загарадзіў шлях мільённай прадажы лясоў і прыастанавіў спэкуляцыю прывілейна набытай зямлёй. Калі-б гэты закон ня быў так сьпешна выданы, дык тысячы мільёнаў нашага дзержаўнага багацьця ўплылі-б у рукі нашых непрыяцеляў. Само собой зразумела, што гэтыя мільёны яны скарысталі-б для руйнаваньня нашага Гаспадарства.

Вышэй памянены закон датычыўся ўладароў майоратных і правілейна набытых маёнткаў. Але Сойм хутка ўбачыў

што гэты закон належыць і да валадароў прыватных маёнткаў, бо і яны, як мага, імкнуцца залажыць ці зусім прадаць свае маёнткі. А таму Устаноўчы Сойм 18 чэрвеня 1920 г. прымае „Закон аб перадачы, набыцьці і аддачы зямлі ў заклад“. На падставе гэтага закону памешчыкі маюць права прадаваць толькі 10% уладаемай зямлі, да гэтых 10% прылічваецца і тая земля, якую яны прадалі да абвешчаньня гэтага закону. Апрыч таго, прадаваць дазваляецца толькі жывучым з зямлі і то ня звыш 20 дзесяцін у адны рукі. Пры прадажы земляў маёнтку паперш маюць права купіць месцовыя беззямельныя і рабочыя маёнтку. На падставе § 4 памяненага тут закону памешчык ніякім чынам ня можа прадаваць тую зямлю, на якую прэд'яўляюць правы месцовыя жахары.

Гэты закон мае вялікую вагу для рэформы ўсяе нашай зямлі. Гэтым законам Сойм захаваў нашу зямлю ад растраты. Калі б яго ня было, дык памешчыкі—палякі даўно-б пакляпаціліся распрадаць ці залажыць большую частку зямлі маёнткаў. Цяпер у Літве знаходзіцца маса розных спэкулянтаў, якія вельмі ахвотна йшлі-б на дапамогу памешчыкам. Рабочыя маёнткаў засталіся-б без працы і без надзеі атрымаць калі небудзь зямлю. У такім жа становішчы апынуліся-б і беззямельныя і нашыя вайсковыя. Усё гэта Сойм прэдугледзяў раней і таму неадкладна выдаў памяненыя тут два законы.

Акрамя паказаных законаў, належыць зьвярнуць увагу яшчэ на адзін, вельмі патрэбны какон—„закон аб арэндатарах“.

Як мы ўжо ўспамянулі, з заявы Старшыні Сойму і лідэраў фракцыяў памешчыкі—палякі ўбачылі, па якому шляху пойдзе праца аграрнай рэформы ў Устаноўчым Сойме. Памешчыкі адчулі, што ўсе малыя арэндатары маёнткаў застануцца на сваіх арэндуемых землях. Баючыся гэтага, усякімі шляхамі пачалі ўдаляць старых сваіх арэндатараў з іх мейсцаў. Сойм і Міністэрства Земляробства былі завалены жалабамі арэндатараў. У Коўно і Сойм пачалі прыходзіць многалічныя дэлегацыі арэндатараў з скаргамі, што памешчыкі выкідаюць іх з хат і астаўляюць бяз усякага прытулку. Падобныя з'явішча, як беззаконныя, у змысьле дзержаўнай і соцыяльнай нужды, рабілі ў краі безпакойства. Сойм ня мог адкладаць гэтага пытаньня таму, што гэта балюча закранула большую частку гаспадарак Дзержавы. А таму на сёмым сваім паседжэньні, значэ, з першых дзён сваей працы, Сойм пачынае абгаварваць справы арэндатараў маёнткаў, а на дзявятым паседжэньні—31 мая 1920 году, быў прыняты „Закон нарміроўкі арэнды прыватных гаспадарак“.

Гэты закон забараняе ўдаляць арэндатараў, забараняе падвышаць вельмі арэндную плату, у рэшці, забараняе прадаваць арэндную зямлю іншаму бяз згоды арэндатара.

Як гэты закон болей усяго характэрызуе яго трэйці параграф, дык прыводзім яго тут: „§ 3. Земляўласьнік ня мае права ўдаляць арэндатараў, якія арэндуюць ня болей 50 дзесяцін зямлі і срок кантракту якіх кончыўся ці якія, не злажыўшы кантракту, знашлі-б, што яны выпаўняюць варункі кантракту і хочуць надаль арэндаваць зямлю; срок арэнды павінен быць прадлён ня меней, як на тры гады, але размер арэнды і іншыя варункі ня могуць быць зьменяны".

Далей у § 4 гаворыцца, што ў выпадку нязгоды паміж уласьнікам і арэндатарам наконта варункаў арэнды, гэтыя варункі ўстанаўляе Урад.

Гэты закон спыніў масавае ўдаленьне арэндатараў з маёнткаў. Апрыч таго, законам былі сцьверджаны правы старых арэндатараў і часткаю было вырашана пытаньне арэндатараў у Літве. Калі-б арэндатарам давелося чакаць аснаўнога закону аграрнай рэформы хоць бы і пару месяцаў, дык за гэты час, пры адсутнасьці ГЭТАГА закону, не засталося-б ніводнага арэндатара ў маёнтках, усе былі-б прымушаны з сваімі сямейкамі пакінуць арэндуемую зямлю.

Праўда, выданьне гэтага і вышэйпамяненага закону адняло ў Сойма шмат часу і не дало магчымасьці падысьці да грунтоўнага абгаворэньня аграрнай рэформы. Але гэтых законаў сьпешна вымагаў дабрабыт Літоўскага працоўнага люду. Гэтымі законамі Сойм абмежаваў сваеволства памешчыкаў, спыніў спэкуляцыю зямлёй і лясамі, абараніў інтарэсы арэндатараў маёнткаў. Грунтоўны закон аграрнай рэформы быў унесян у Сойм толькі вясною гэтага году і цяпер яшчэ там абгаварваецца. Такім чынам, калі-б ня былі выдадзены гэтыя падгатоўчыя законы, памешчыкі прадалі-б маёнткі і лясы, як распрадалі цяпер у акупованай вобласьці Вільні. Памешчыкі напоўнілі-б кішэні грашмі, а беззямельныя і малазямельныя засталіся-б у такім цяжкім становішчы, у якім і да гэтых пор былі.

Сойм гэтага не дапусьціў, і Літоўскі працоўны люд будзе яму за гэта вечна ўдзячан. Іншыя законы аграрнай рэформы, выдадзенныя Соймам перад абгаворэньнем аснаўнога закону аграрнай рэформы, ня маюць сьпешнага характару. З іх перш усяго сьледуе адзначыць „Закон аб надзеле вайсковых зямлёй", выдадзены 26 ліпеня 1920 году. Далей 14 жніўня 1920 году быў прыняты ў Сойме „Закон аб адчужджэньні лясоў, майоратных і прывілейна набытых земляў.

30 кастрычніка 1920 году быў прыняты закон аб апецы тых маёнткаў, уладары якіх ня жывуць у Літве.

На падставе трох апошніх законаў Сойму было прынята ў веданьне Ураду звыш 200.000 дзесяцін зямлі і ўсе лясы Літвы (за выключэньнем тых лясоў, якія прыналежаць сельскім ці паасобным гаспадаром). Каля 150.000 дзесяцін узятай Урадам зямлі перадана малазямельным і беззямельным, а звыш 50.000 дзесяцін раздана вайсковым ці семьям вайсковых.

Ня гледзячы на тое, што грунтоўны закон аграрнай рэформы яшчэ ня прыняты аканчальна Соймам, праца аграрнай рэформы ў Літве йдзе вельмі карысна. Праўда, большасьць беззямельных і малаземельных, атрымаўшых зямлю з узятых Урадам маёнткаў (за выключэньнем вайсковых, якія лічуцца ўладарамі атрыманай зямлі), уладаюць гэтай зямлёй на правах арэнды. Але яны добра знаюць, што аснаўны закон аграрнай рэформы дае ім права застацца поўнапраўнымі ўладарамі гэтых земляў. А таму большасьць з іх будуюць хаты на перaданай ім зямле, заводзяць жывы і мёртвы інвэнтар. Каля 90% рабочых, атрымаўшых зямлю, пры дапамозе сваіх блізкіх ужо набылі ўвесь патрэбны ім інвэнтар і цяпер ляпей апрацоўваюць зямлю, чым памешчыкі.

Тысячы дзесяцін маёнткаў па ўсёй Літве заселяны цяпер беззямельнымі і малазямельнымі. Аснаўны закон аграрнай рэформы дасьць ім магчымасьць стаць поўнымі ўладарамі зямлі, арэндуемай імі цяпер ад Ураду. І на чыне, у § 21 аснаўнога закону аграрнай рэформы сказана, што „арэндатары зямлі маёнткаў, якія ня маюць уласнай зямлі, маюць права пакінуць сабе да 20 дзесяцін арэндуемай зямлі“.

На грунце правілаў аснаўнога закону аграрнай рэформы будзе пакінута арэндуемая зямля і ўсім уладаючым сваёй зямлёй малазямельным. І ўвесь абгаварываемы цяпер у Сойме аснаўны змысл аграрнай рэформы з самага пачатку і да канца галоўнай сваей мэтай ставіць надзел беззямельных і малазямельных зямлёй. Першы параграф аснаўнога закону аграрнай рэформы кажа: „Закон аграрнай рэформы выдаецца дзеля надзелу беззямельных і малазямельных зямлёй, для ўстанаўленьня кіраваньня зямлёй, каб былі належныя варункі для вядзеньня зямельнай гаспадаркі і наўперад усяго невялікай гаспадаркі на землях, стаўшых дзержаўнымі, якія Гаспадарства можа скарыстаць цэлесаабразьней, чым прыватныя асобы“.

Дзеля дасягненьня гэтай мэты, далей у законе гаворыцца, што адчуждаюцца ўсе ўчасткі зямляў маёнткаў, пакідаючы ўладарам 70 дзесяцін. Іншая зямля раздаецца месцовым беднякам і малым гаспадаром.

Разам з аснаўным законам аграрнай рэформы ў Соймі абгаварваецца яшчэ адзін важны закон, а іменна: „Закон аб зьніштажэньні сэрвітутаў і агульных пасьцьбішчаў у Літве“. Пры абгаворэньні гэтага закону Сойм мае на ўвазе перш усяго інтарэсы гаспадароў. І гэта зусім ясна, бо карыстаньне сэрвітутамі, пасьцьбішчамі ці матэр'ямі лясоў, дае вялікую падтрымку гаспадаром у Літве. Многія бяз сэрвітутаў ня здолялі-б вясьці гаспадарку. А таму ўвес час гаспадары Літвы так упарта змагаліся за правы сэрвітутаў. За некалькі дзесяткаў гадоў напэўна было-б цяжка знайсьці ў Літве вёскі, якія-б не карысталіся сэрвітутамі і агульнымі з маёнткам пасцьбішчамі. Але пры гэтакім парадку ў Літве — „дзе сіла, там і права“, многія гаспадары Літвы лішыліся права сэрвітутаў, перасталі карыстацца агульнымі пасцьбішчамі. З тых, якія мелі раней сэрвітуты ці агульныя пасцьбішча, сёньня ва ўсёй Літве можа быць карыстаецца гэтым правам толькі дзесятая частка, іншыя ў выпадку розных машэнстваў памешчыкаў — палякаў даўно страцілі гэта права, іншыя-ж і цяпер вядуць працэсы.

Устаноўчы Соим добра разумее, якую вагу маюць для Літвы сэрвітуты, а таму і абгаварывае закон аб зьніштажэньні сэрвітутаў, разам з аснаўным законам аграрнай рэформы. На падставе абгаварываемага цяпер у Соймі законапраэкту аб зьніштажэньні сэрвітутаў так прэдпалагаецца вырашыць пытаньне аб сэрвітутах: зьніштажаюцца правы сэрвітутаў, лясных матэрьялаў, і пасцьбішчаў, а перадаюцца гэтыя правы гаспадаром бяз усякага вынаграджэньня памешчыкам. Уладарам сэрвітутаў і ляснога матэр'ялу, заместа правоў сэрвітуту, назначаюцца адпаведаючыя вучасткі лесу. Лес даецца па магчымасьці бліжэй да заселяных гаспадарамі месцаў. Падобна зьніштажаюцца і правы сэрвітутаў пасцьбішчаў. Жыхарам вёсак і мястэчак, якія карыстаюцца гэтымі правамі, назначаецца адпаведеючы вучастак зямлі і аддаецца так жа, як і лес, у поўную іх уладнасьць.

Агульныя пасцьбішчы вёсак ці мястэчак з пасцьбішчамі маёнткаў, прэдпалагаюць далучыць да гэных вёсак ці мястэчак, якія імі карысталіся да гэтага часу, у поўную іх уладнасьць.

Такім чынам і законам аб сэрвітутах Сойм перш усяго клапаціцца аб інтарэсах Літоўскага народу. Адным словам у

аснову працы аграрнай рэформы Сойму пакладзены прынцып надзелу зямлёй беззямельных і малазямельных.

Літоўскі Сойм шырока адчыніў дзьверы нашым беззямельным і малазямельным гаспадаром у новае жыцьцё. Працаўнікі зямлі Літвы і гаспадары пачынаюць новае жыцьцё. Праз цьвёрдую аграрную рэформу Сойму адвечныя жаданьні нашай нацыі робяцца рэальнымі, загаіваюцца нанесяныя нам абіды. Людзям працы Літвы зварачаецца маемасьць, якую адабралі ад іх памешчыкі—палякі. Працай зямельнай рэформы Сойм зьніштажае тое соцыяльнае неравенства, якое утварылі нашы памешчыкі. Само сабою ясна, што памешчыкі—палякі нічуць не спачуваюць Сойму ў яго працы па праведзеньню аграрнай рэформы. А таму яны ўсемерна бэсьцяць Сойм і Літоўскі Урад. Яны робяць усякія перашкоды, каб толькі ззарваць вядзеньне Соймам аграрнай рэформы. От-жа толькі дзеля таго, как захаваць свае маёнткі, яны „стварылі“ гэнэрала Жэлігоўскага. Але дарэмны іх высілкі. Ні Сойм ні Урад не зьвяртаюць увагі на жальбы памешчыкаў, бо Сойм турбуецца аб працоўным народзе і яго патрэбах.

---

# СЭРВІТУТЫ.

У Літоўскім Соймі ў другім чытаньні ўжо прыняты закон аб ліквідацыі (зьніштажэньні) сэрвітутаў.

У Літве ўсе знаюць, што такое сэрвітуты, гэныя астаткі паншчыны, тае паншчыны, якая столькі гадоў цяжарам ляжала на шыі селянства ў нашай Бацькаўшчыне ды і ў іншых краёх. Але дарэмна было-б думаць, што паншчына ўсюды была. Ёсьць выключэньні, ёсьць краі, дзе народ паншчыны ніколі ня знаў. За прыкладамі далёка хадзіць ня прыходзіцца.

За суседнім з намі Балтыцкім морам, у так званых скандынаўскіх старонках (Швэцыя, Нарвэгія і інш.) паншчыны ці зусім ня было, ці калі ў якіх мейсцах і была, дык у самай лёгкай форме. Мейсцамі, як напрыклад у Нарвэгіі, ня толькі ня было паншчыны, але там зусім не злажылося дваранскага саслоўя ці паноў.

Ня тое было ў нас. Нашы айцы і дзяды жылі пад паншчынай і цярпелі ад сваевольства паноў (памешчыкаў) болей двухсот годоў. Трэба адзначыць, што ў нашых суседзяў на

поўдні і ўсходзі, г. з. ў палякаў і велікарасейцаў ці маскалёў народу пад паншчынай жылося яшчэ цяжэй.

Такое-ж становішча простага народу было і ў немцаў.

Належэ памятаць, што ў Літве паншчына ўзмацнілася пасьля Люблінскай уніі. Да таго-ж часу паншчыны ў Літве ня было. Жыцьцё тут складалося і разьвівалося немаль па таму-ж шляху, як у Скандынавіі, г. з. Швэцыі і Нарвэгіі. А таму трэба думаць, ня будзь уплыву і блізкай сувязі з Польшчай і ўсходнімі суседзямі (маскалямі) паншчыны ў Літве ці зусім ня было-б, ці калі яна і была-б, дык у самай лёгкай форме.

Але ў Літве, як мы знаем, ня прышлося жыць зусім самастойна, і тыя парадкі, тыя ўціскі простага народу, якія былі ў суседзяў, распаўсюджыліся і ў Літве. Але, як ужо было адзначана, у Літве паншчына ўсё-такі была некалькі мягчэй, чым у каранной Польшчы і ў Масковіі. Асабліва гэта заметна, калі раўняць ня ўсю Літву, а толькі заходнія яе вобласьці.

Вертаючыся да Люблінскай уніі, трэба яшчэ адзначыць, што ў той час панам прыпалежалі не асабліва вялікія абшары зямлі. Просталюдзінам ці крэсьцянству прыналежаў тады большы абшар зямлі, чым панам. Толькі пазьней, йдучы па шляхох сваіх суседзяў з паўдня і ўсходу, памешчыкі захапілі ў свае рукі тыя аграмадныя абшары зямлі, якімі яны ўладалі потым. Гэты захват земляў адбываўся рознымі шляхамі: хітрасьцяю і лоўкасьцю, насільствам, выклянчываньнем міласьці, а іншы раз і вымогаю ў каралёў і г. д.

Апісываць гэныя шляхі, гэныя спосабы захвату панамі не прыналежачых ім земляў я тут ня стану.

Застанаўлюся толькі на адным пытаньні, на адной „мэханіцы“, да якой многа раз прыбегалі паны ці памешчыкі.

Справа ў тым, што ў тыя далёкія часы гэткай зямельнай цеснаты, як цяпер, ня істнавало. Былі аграмадныя абшары земляў, так называемых безгаспадарных ці такіх, якімі карысталіся адначасна некалькі вёсак. І вось, з усіленьнем уплыву паноў, яны тым ці іншым спосабам захоплівалі гэныя землі, гэта значэ ня толькі безгаспадарныя, а і такія,

якія ў супраўднасьці прыналежалі крэсьцянству, але толькі ня былі яшчэ падзеляны паміж асобнымі гаспадарамі. Не заўсёды гэта лёгка давалося, бо селяне пратэставалі і праціваліся такому захвату сваіх земляў. А таму, каб палегчыць сабе захват земляў, паны ва многіх выпадках падыходзілі да гэтага паступова. Яны пачыналі карыстацца гэтымі землямі (г. з. ахвоціцца, пасьвіць набытак, рубаць лес і г. д.), але не перашкаджалі некаторы час карыстацца гэтымі землямі і крэсьцянам. Потым, устанавіўшы даўнасьць, яны цяпер пачынаюць уціскаць крэсьцян (напр. аграничваючы лік крэсьцянскага набытку, які можна пасьвіць на гэтых землях), па другое закрэпляпь свае правы зладжэньнем дакумэнтаў. Гэтак, шаг за шагам уціскаючы крэсьцян памешчыкі ці зусім захоплівалі гэтыя землі, ці ў тых выпадках, калі чаму--колечы гэта ім не ўдавалося, устанаўлялі на гэтых землях змешанае ці сэрвітутнае карыстаньне.

Такое ва многіх выпадках пахаджэньне сэрвітутаў. Праўда, сэрвітуты ўстанаўляліся ня толькі гэтым шляхам, але паказаны вышэй шлях быў у нас, пэўна, самым распаўсюжаным.

Гэтым шляхам паны захоплівалі крэсьцянскія землі на працягу ўсяго часу аж да звальненьня крэсьцян ад паншчыны. Звальненьне кресьцян ад паншчыны прарвало, у рэшці, гэты паход паноў на крэсьцян, г. з. скончыўся захват імі крэсьцянскіх земляў.

Такім чынам мы бачым, што маючыяся ў Літве і Беларусі сэрвітуты па большай часьці сьведчаць аб тым, што вось тут, на гэныя землі, было пакушэньне з боку памешчыкаў захапіць іх у сваю карысьць, але не хапіло на гэта часу. Землі-ж гэныя па справедлівасьці павінны былі-б прыналежаць крэсьцянам.

На гэты пагляд і стаў Літоўскі Сойм, засядаючы часова ў Коўні з выпадку захвату Вільні панамі. Сойм рашыў, што ўсе тыя пасцьбішчы, сенажаці і палі, на якіх па падставе сэрвітутнага права крэсьцяне маюць права пасьвіць набытак, павінны цалком перайсьці да гэтых крэсьцян ва ўласнасьць і пры гэтым безкаштоўна. Калі-ж крэсьцяне мелі права пасьвіць жывёлу ў лесі, дык ім павінны быць безкаш-

соўна аддадзены ва ўласнасьць участкі выганаў (ці іншых угоддзяў) адпаведна ліку набытку, які селяне пасуць на тэрвітутных угоддзях.

Гэта пастанова Літоўскага Сойму толькі ўваскрашае патаптаныя правы селян у часы паншчыны. Яна з'яўляецца актам справедлівасьці і заботы адраджаючагося Літоўскага Гаспадарства ў адносінах да селянства. Але гэта-ж пастанова выклікае злабу і абурэньне ў памешчыкаў.

Ліквідацыя сэрвітутаў у карысьць крэсьцян, а яшчэ болей зямельная рэформа ненавісны памешчыкам, а таму Літве прыходзіцца ўпарта змагацца за свае правы, за сваю самастойнасьць. У гэнай барацьбе інтарэсы Літоўскага прасталюдзіна і інтарэсы беларускага прасталюдзіна адны і тыя-ж, і шляхі іх барацьбы агульны. Іх, г. з. крэсьцян, аграмадная большасьць у Краі, яны ўжо разумеюць, хто з імі і хто супроць іх, і таму, раней ці пазьней, селянін свае атрымае, усе свае правы поўнасьцю ўваскрэсіць, і памешчыцкай свавослі хутка настане канец.

Часы паноў безпаваротна мінаюць.—

---

# Як у Літве народ прымае удзел ў праўленьні краем.

Магутнае Літоўскае Гаспадарства, якім яно было ў часы вялікіх князёў Гэдыміна—Вітаўта Вялікага, пасьля злучэньня з Польшчай стало слабець, пакуль разэм з апошняй не зрабілося здабычай суседніх дзержаў.

Занепадам Літоўскага Гаспадарства мы ў значнай меры абавязаны польскай шляхце і, пераняўшай яе дрэнныя звычаі, Літоўска—Беларускай шляхце.

Па прыкладу польскай шляхты літоўска--беларуская шляхта прысвоіла сабе асабістыя прывілеі, пераняла іх дрэнны чын жыцьця, іх звычаі і, маючы ўладу ў сваіх руках, заместа таго, каб клапаціцца аб патрэбах краю, аб народзе,— занялася інтрыгамі, паміжсобнымі спрэчкамі, стала ўсё болей і болей уціскаць працоўны народ, каб выжаць больш грошай,

якія былі ім патрэбны на раскошу і разгул. У рэшці літоўска-беларуская шляхта, якая разам з тым была і памешчыкамі, паступова забыла родную літоўска-баларускую мову і пачала лічыць сябе палякамі—панамі. Такім чынам Літоўскі Народ, як і беларускі, страціў сваё дваранство. Але ня толькі страціў, а нават у асобе спольшчыўшыхся памешчыкаў набыў сабе апаснага ворага, які шкодзіў народу з двох бакоў. З аднаго боку яны выжымалі з народа астатнюю кроплю поту паншчынай, з другога—імкнуліся скараніць яго родную мову, усемерна прасьлядуючы літоўскую і беларускую мову і насаджаючы польскую мову. Доўгі час памешчыкам у гэнай справе шчыра дапамагало і духавенства. Каб прымусіць народ пакінуць родную мову і звычаі, спольшчывацелі не застанаўляліся перад самымі ганебнымі срэдствамі. Зьдзекуючыся над літоўскай і беларускай мовай, называючы іх хамскімі, паганскімі, яны даходзілі да таго, што ня стыдаліся сцьвярджаць, што Бог ня прымае малітвы на літоўскай мове, што быццам Прасьвятая Багародзіца хоць і нарадзілася ў Палестыне, аднак была полька і разумела толькі польскую малітву і любіла толькі тых, якія гутарылі на польскай мове.

Дзякуючы такой дзеяльнасьці, за панамі—памешчыкамі пашло ня толькі гарадзкое жыхарства, якое, ізнываючы пад цяжарам паншчыны, не магло атрымаць асьветы, і таму не магло зразумець усяе ганебнай працы спольшчывацеляў.

Такім чынам йшло моцнае апалячываньне краю, якое не давало нічога добрага, толькі падтрымлівало цемнату народную і псавало яго характар. Лік літоўцаў і беларусаў паступова зьменьшаўся, а палякаў павелічаўся, бо пераняўшыя польскую мову, хоць па крыві заставаліся літоўцамі і беларусамі, але ўжо называлі сябе палякамі. Такім чынам зьмянілі роднаму краю і перайшлі на польскі бок амаль усе памешчыкі, перайшла значная частка гарадзкога жыхарства, перайшла і частка селян, як, напрыклад, у значнай часьці Віленскай губ., у некаторыхъ паветах Сувалкскай губ., і нават мясцамі ў Ковенскай губэрні. Многія нават думалі, што літоўскі народ хутка зусім зьніштожыцца, пераняўшы польскую мову, зліецца з польскім народам. Аднак яны глыбака памыляліся.

Пасьля звальненьня крэсьцян ад польска-панешчыцкай няволі, калі народу ўжо не патрэбна было працаваць на панешчыка, калі народу адчыніўся шлях да прасьветы, тады можна было сказаць, што ворагі літоўскага народу памыліліся, што народ вынес цяжар спольшчывацеляў і захаваў лепшыя свае сілы. Праўда, літоўскую культуру і літоўскую мову захавало толькі працоўнае селянства, але пасьля звальненьня крэсьцян ад паншчыны з сялянскага гурту пачынае выходзіць усё болей і болей адукованых людзей. З гэтага гурту выходзяць дахтары, адвакаты, інжанэры, вучыцялі, ксяндзы і г. д. Яны ўжо ня йдуць сьледам адшчапенцаў—памешчыкаў, не пакідаюць роднае мовы, не забываюць простага народу, а наадварот, усімі сіламі імкнуцца яму дапамагчы і стараюцца зьнішчожыць уплыў спольшчывацеляў, раз'ясьняючы народу, што літоўская мова нічуць ня горша за польскую, што, пераймаючы польскую мову, народ робіцца болей цёмным і таму яго лягчэй уціскаць.

І калі цяпер літоўскі народ болей асьветляны, чым польскі, дык з гордасьцю можна сказаць, што гэтым ён абавязан толькі самому сабе, што ён ня меў ніякай дапамогі з боку болей багатых, г. з. памешчыкаў і гарадзкога жыхарства.

Усё гэта належыць знаць, каб зразумець, якім чынам Літва, калі многія лічылі яе ўжо памёршай, магла зноў адрадзіцца, магла стаць незалежным гаспадарствам. Гэта трэба знаць і дзеля таго, каб зразумець, чаму ў Літве істнуе такая еднасьць між урадам і народам, чаму ў Літве ўрад даверае народу, а народ—ураду. У 1918 гаду, калі была абвешчана незалежнасьць Літвы, Літоўскі урад, складаўшыйся з лепшых людзей, вышоўшых з гурту простага народу, ня меў ні войска, ні грошай ні чыноўнікаў, аднак, дзякуючы еднасьці з народам, дзякуючы таму, што народ давераў Ураду, ён патрапіў забараніць край ад ворагаў і ўвясьці ў краі парадак. Тады Часовы Урад зьвярнуўся да народу з адозвай, каб ён выбіраў Валасныя і Паветавыя Камітэты і каб гэтыя Камітэты узялі ў свае рукі уладу і сталі-б рабіць у Краі парадак. Гэтыя Валасныя і Паветавыя Камітэты былі вы-

браны і з'явіліся першымі органамі самаўпраўленьня на Літве. Пакуль Часовы Урад ляпей з'арганізаваўся, пакуль ён усе свае сілы павінен быў напружваць на барацьбу з ворагамі—бальшавікамі, палякамі і немцамі—бэрмонтаўцамі, гэтыя Камітэты ўсімі сіламі дапамагалі Ураду ў яго працы. Як у выпадку пасьпешнасьці выбараў ня ўсе камітэты былі выбраны належна, дык Урад выдаў закон аб земствах, на падставі якога былі выбраны Валасныя і Паветавыя Управы і Рады (Тарыбы). Гэта былі тыя-ж органы самаўпраўленьня, толькі падіншымі назовамі.

Хоць Урад у Літве назначаецца ўсім Народам выбраным Соймам, але ён добра разумее, што толькі тады ў краі будзе найлепшы для народу парадак, калі сам народ будзе прымаць самы блізкі ўдзел у гэтым упраўленьні краем. Як ні пэўны будуць чыноўнікі, але яны ня здоляюць убачыць усіх патрэб народу, ня здоляюць іх належным чынам выразьшыць бяз прэдстаўнікаў народу. А таму ў Літве цьвёрда ўстаноўлена, што апрыч Ураду з яго чыноўнікамі на паветах, у праўленьні краем павінен прымаць удзел сам народ праз сваіх выбраных прэдстаўнікаў, праз земскія ўстановы, якія па выданаму закону павінны складацца з Валасных і Паветавых Упраў і Рад (сэймікаў), а такжа Гарадзкіх Упраў і Рад.

Апошнія выбары ў земства адбыліся летам 1921 году і будуць паўтарацца праз кожныя тры гады.

Згодна памянёнага закону маюць права выбіраць і быць выбранымі ўсе дарослыя грамадзяне, бо ў Літве ўсе грамадзяне лічуцца роўнапраўнымі па закону, г. з. маюць роўныя правы без разлічча нацыянальнасьцяў і веры.

Выбары адбываюцца такім чынам, што ў кожнай воласьці і горадзі выбіраюцца Рады (Тарыбы) прыблізна з 20 чалавек.

Выбраныя ў Раду з свайго боку выбіраюць Валасную Управу з трох членаў (Старшыні, яго памочніка і Казначэя) і членаў Паветавай Рады (Тарыбы) ад гэтай воласьці. Члены Паветавай Рады, сабраўшыся з усіх валасьцёў, выбіраюць Паветавую Управу з трох членаў (Старшыні, яго па-

мочніка і Казначэя). Акрамя таго, у валасьцёх і паветах зьбіраюцца і расходуюцца Народныя грошы.

Уездныя і Валасныя Управы працуюць усьцяж, а Рады (ці сэймікі) сходзяцца толькі дзеля вырашэньня болей важных пытаньняў, датычачых толькі аднэй воласьці, а Паветавыя—усяго павету.

Некаторыя могуць сказаць, што земствы зусім не патрэбны, што іх працу могуць спаўняць урадавыя чыноўнікі.

Так гутарыў царскі ўрад да вайны, але ён гутарыў гэтак таму, што баяўся народу. Гэтак гутараць і цяпер тыя, хто не даверае народу. Але Літоўскі Урад, які сам вышоў з нэдраў народу, ня можа так гаварыць. Ён вельмі добра разумее, што чыноўнікі ня могуць належна вырашыць усіх мейсцовых пытаньняў, што народ ляпей бачыць свае патрэбы і ляпей іх вырашыць. А таму валасным і паветавым самаўпраўленьням (Управам і Радам) даручаюцца ўсе мейсцовыя пытаньні, як будаваньне школ, дарог, больніц, раскладка розных павіннасьцяў і г. д. Ня меньшую вагу маюць прэдстаўнікі грамадзянства ў працы ўрадавых чыноўнікаў, паскольні іх праца датычыцца мейсцовага жыхарства, напрыклад, узіманьне падаткаў, раздача лесу пагарэльцам, пытаньне зямельнай рэформы і г. д. Асабліва вялікую вагу мае ўдзел прэдстаўнікаў самаўрадаў у вырашэньні апошняга пытаньня, бо толькі пры іх учасьці аддаецца зямля малазямельным і беззямельным крэсьцянам.

І наогул у Літве ва ўсіх пытаньнях істнуе самае блізкае супрацоўніцтва паміж чыноўнікамі і прэдстаўнікамі земства, г. з. народам выбранымі прэдстаўнікамі.

Толькі таму Літва змагла абараніцца ад сільных ворагаў, што яе Урад з самага пачатку йдзе рука аб руку з народам і вышэйшым сваім заданьнем ставіць дабрабыт народу.

З вышэйсказанага гэткі парадак праўленьня краем робіцца зразумелым сам сабою: Літоўскі Урад і наогул адукаваныя людзі вышлі з простага народнага гурту і ўжо таму ня могуць не клапаціцца аб народным дабрабыце.